Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 36 (90). Нядзеля, 18 Кастрычніка 1925 г. м. Вільня Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць адзін раз у тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 мес. 80 гр.
" " " 3 " 2 зл. 40 гр.
Можна паштовымі маркамі.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka, 1 „Hotel Sokołowskiego" pokój № 26. Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз.
Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак на 1 стр. — 15 гр
за радок нонпарэля: у тэксьце — 20 гр,
на апош. стар. 10 гр

## Сабор чырвоных іерархаў.

Гэтымі днямі ў Маскве адбыўся царкоўны сабор гэтак званых „абнаўленцаў".

Ужо адно тое, што сабор гэты рабіў паседжаньні ў „доме саветаў", ясна гаворыць аб тым, кім і для якіх мэтаў ён быў скліканы.

Барацьба, якую пачалі ў свой час бальшавікі проці пакойнага патрыярха Ціхана, як ведама закончылася поўным паражэньнем чырвоных іерархаў, гэтак званых „жывацаркоўнікаў і абнаўленцаў". У апошнія месяцы жыцьця патрыярха, шмат гэтых іерархаў, убачыўшы, што насяленьне засталася верным праваслаўнай царкве, зусім страціла грунт пад нагамі. Многія з іх „пакаяліся" перад Ціханам і прасілі яго дараваць ім іх здраду.

Аднак-жа, пасьля сьмерці патрыярха Ціхана, „абнаўленцы" ізноў пачалі паход проці праўдзівай праваслаўнай царквы і ўсіх шчырых прыхільнікаў пакойнага патрыярха. Але, дзякуючы папулярнасьці і аўторытэтнасьці наступніка патрыярха—мітрапаліта Пётры Круціцкага, а галоўным чынам, дзякуючы вялікаму аўторытэту ідэалаў самай праваслаўнай царквы, асьвяшчонай векавымі традыцыямі і густа палітай крывёй мучанікаў, якія па заветам Хрыста пакорна ішлі на сьмерць і тысячамі пагібалі ў падвалах бальшавіцкіх чрэзвычаек, праваслаўная царква ўратавалася ад пагібелі, якую ёй гатавалі слугі Антыхрыста—бальшавікі. Трэба зазначыць, што ў барацьбе за сьвятую веру і царкву, можа ў першы раз, аб'едналіся ўсе клясы. Калі сьвяшчэньнікі і вышэйшыя іерархі тысячамі гінулі ад куляў чэкістаў, дык на іх мейсца бязупынна зьяўляліся ўсё новыя і новыя барацьбіты за Сьвяты Крыж. У нязьмерна цяжкіх варунках адбывала праваслаўнае духавенства сваё служэньне Богу. Надта цяжкія варункі былі і матэрыяльныя. І трудна была-б ім вытрымаць гэтую барацьбу, калі-б на падмогу ім ня прыйшоў сам праваслаўны народ. Але, не гледзячы на страшэнны тэррор і перасьледаваньні веруючых, праваслаўны народ магутнай і грознай шэрай масай падняўся на абарону веры сваіх бацькоў. Тая перагародка, якая была паміж пастырамі і паствай пры царскай уладзе, а потым штучна ўзмацнялася пляновай пропагандай комуністаў,—рухнула, і паства пайшла разам са сваімі пастырамі на барацьбу за Хрыстовую Веру.

І вось, ня гледзячы на вялікія высілкі, якія пакладалі бальшавікі ў барацьбе з рэлігіяй (гэтым, па славах Леніна „опіумам народаў"), ня гледзячы на выданьне розных „безбожнікаў" і утрыманьне цэлай спэцыяльнай арміі хуліганаў-комсамольцаў, аўторытэт Хрыстовай Царквы усё гэта перамог.

Цяпер ужо ясна, што востры мамэнт у жыцьці праваслаўнай царквы—мінаваў.

Паднятая праступная рука інтэрнацыянальнага Антыхрыста дрыгнула і бяссільна апусьцілася.

Пачыў сьмерцьцю праведных патрыярх Ціхан, але яго заветы — заветы праваслаўнай царквы—жывуць і... „врата адавы не адалеюць яе". І што-бы не рабілі, як-бы не стараліся „абнаўленцы"—гэтыя Іюды, за чырвонцы прадаўшыяся савецкай ўладзе, на чале з вядомым авантурнікам Аляксандрам Введзенскім і „протапрасьвітэрам" Красоціным,—ясна, што сабор, які мітрапалітам Пётрам аб'яўлены лжэ-саборам, — бязумоўна праваліўся.

Пад націскам бальшавіцкай заразы, развалілася магутная царская армія.

Пад ударамі тэррора пагібла амаль што ўся расійская інтэлігэнцыя.

А нязначнае лічэбна праваслаўнае духавенства, пры вялікай дапамозе народу, моцна і з гонарам трымае свой сьвяты штандар — заветы Хрыста.

---

## АД АДМІНІСТРАЦЫІ.

*Адначасова з гэтым нумарам, усім падпісчыкам, якія прыслалі падпісныя грошы за 3 месяцы, рассылаецца, як бясплатны дадатак да газэты, п'еса Фр. Аляховіча „ДРЫГВА".*

*Усім тым, хто да 15 лістапада г. г. прышле падпіску на тры месяцы, таксама будзе бясплатна выслана „ДРЫГВА".*

---

## Палітычны агляд.

Калі Чычэрын, пасьля ветлага прыёму, ехаў з Варшавы ў Бэрлін, дык шмат якія староньнікі польска-савецкага зьбліжэньня баяліся, што ў Бэрліне яго спаткаюць яшчэ лепш, і гэткім чынам прападуць дарма ўсе рэзультаты варшаўскага „зьбліжэньня". Найболей баялася „Gaz. Warszawska", якая праз колькі дзён пасьля гэтага спыніла сваё існаваньне на 151 годзе свайго жыцьця. Гэта газэта, якая выяўляла думку дэпутатаў правай партыі і, як яна сама аб сабе казала, стаяўшая на чале ўсяго польскага руху на карысьць зьбліжэньня з бальшавікамі, сваёй сьмерцю лепш за ўсё даказвае банкроцтва гэтай ідэі. Страх польскіх правых партыяў з бальшавікамі, датычна таго, што немцам удасцца пераманіць Чычэрына на свой бок, аказаўся зусім справядлівым. Перш-на-перш яму ў Бэрліне быў зроблены гэткі гарачы прыём, што варшаўскі прыём выглядае зусім бледна. У канцлера Лютэра ў чэсьць Чычэрына быў наладжаны ўрачысты раўт, на якім былі прысутны ўсе міністры, шмат выдатных асобаў быўшай імпэратарскай эпохі, як князь Бюлаў, графы, бароны, дырэктар крупаўскіх фабрык, старшыня саюзу нямецкіх прамыслоўцаў, прадстаўнікі фінансавага сьвету ды інш. Пасьля гэтага перад ад'ездам нямецкай дэлегацыі ў Лёкарно на конфэрэнцыю, адбыліся нарады нямецкага міністра заграгічных справаў Штрэзэмана з Чычэрынам, пасьля каторых апошні заявіў прадстаўнікам прэсы, што ён зусім здаволены сваей паездкай у Бэрлін. Што гэта праўда, відаць з таго, што ён падпісаў гандлёвы дагавор з Нямеччынай, аб якім вяліся колькі месяцаў перагаворы. Апрача таго нямецкі ўрад заверыў Чычэрына, што падпісаны Нямеччынай з саюзьнікамі пакт бясьпекі зусім не зьмяняе адносінаў Нямеччыны да Саветаў. І, паскольку можна судзіць з одзываў бэрлінскае і лёнданскае прэсы, між Нямеччынай і ССРР. была зроблена ўмова датычна адносінаў аднэй і другой да лёкарнскай конфэрэнцыі. Гэткім чынам прыяцельскі прыём Чычэрына ў Варшаве меў сваім рэзультатам тое, што давёў яшчэ да большага зьбліжэньня між немцамі і бальшавікамі. Калі-б у Варшаве не былі палітычна блізарукімі, дык гэтага трэ' было спадзявацца загадзя. Трэба памятаць, што бальшавікі шмат абавязаны сваім існаваньнем перш за ўсё немцам. Калі вялася рашучая барацьба з Нямеччынай у 1917 г. і ніводная дзяржава не хацела прапушчаць са Швэйцарыі ў Расію праз сваю тэрыторыю Леніна, Троцкага, Зіноўева, Бухарына, Луначарскага і інш., дык толькі нямецкі гэнэральны штаб правёз іх праз Нямеччыну ў заплямбаваных вагонах, ды яшчэ выдаў Леніну 70 міл. зал. марак на расклад расійскай арміі і арганізацыю бальшавіцкага пераварота. Дык-жа й цяпер бальшавікі існуюць, галоўным чынам, дзякуючы немцам. Усе савецкія фабрыкі падтрымліваюцца нямецкімі інжынерамі. Ува флоце, арміі, паветранай навігацыі працуюць нямецкія інструктары. Нядаўна зроблена ўмова з нямецкімі банкамі, датычна кароткатэрміновай савецкай пазыкі ў разьмеры 100 міл. марак, пад залог расійскага збожжа. І пры гэткіх нямецка-савецкіх адносінах, у Варшаве думалі выкарыстаць маскоўскага дыктатара проці Нямеччыны. Выйшаў канфуз і больш нічога.

5 кастрычніка ў Лёкарно распачалася конфэрэнцыя міністраў заграпічных справаў Нямеччыны, Англіі, Францыі, Бэльгіі, Польшчы і Чэха-Славакіі, дзе разглядаецца пакт бясьпекі. Значэньне гэтай конфэрэнцыі, як бы яна ні кончылася, вялізнае. Яе дамагаліся, перш за ўсё, немцы, хацеўшыя сесьці за агульным сталом з нядаўнімі ворагамі і пераможцамі, як роўныя з роўнымі. Пераможцы і пераможаныя сабраліся для супольнага разгляду пытаньня аб абясьпечаньні будучага міру ў Эўропе. Палітычная атмосфэра ўтварылася дзеля гэтага спрыяючая. З аднаго боку Англія, вёўшя на ўсім азіяцкім і ўнутраным фронце барацьбу з савецкай агітацыяй, пастанавіла перацягнуць на свой бок Нямеччыну, ідучы ёй на спатканьне ў яе дамаганьнях. Таксама і Францыя, меўшая вялізныя труднасьці ў Сірыі, Мароко і Інда-Кітаі, а таксама й унутры края, была прымушана шукаць зьбліжэньня з Нямеччынай. Якраз перад самай конфэрэнцыяй у Лёкарно прыйшла вестка з Амэрыкі, што падарожа францускага міністра фінансаў Кайо ў Амэрыку, меўшая на мэце ўрэгуляваць пытаньне аб ваенных даўгах, закончылася поўнай няўдачай. Гэта падарожа мела на мэце ўрэгуляваць гэтае надта важнае пытаньне, каб узмацаваць сваю пазыцыю ў Лёкарно. Даўгі Францыі ў Амэрыцы даходзяць да 4 мільярдаў даляраў, ня лічучы працэнтаў. Францыя запрапанавала, што заплаціць доўг у працягу 62 гадоў з умовай, што спачатку будуць выплачывацца нязначныя сумы, якія паступова будуць павялічвацца. Апрача таго Кайо прапанаваў, каб Амэрыка, бяручы даўгі Францыі, прыймала-бы пад увагу яе ўнутранае фінансавае палажэньне і тое, ці Нямеччына будзе акуратна плаціць паводле пляна Даўса. Амэрыка катэгорычна заявіла, што яна ня хоча нічога ведаць аб унутраным палажэньні Францыі і аб тым ці Нямеччына будзе плаціць свае даўгі Францыі, ці не. Яна захацела, каб першыя ўзносы Францыі далі 157 мільёнаў дал. у год. У Амэрыцы сказалі францускай дэлегацыі, што калі Францыя можа ўтрымоўваць 700.000 армію, дык можа і плаціць даўгі. Калі да гэтага доўгу Францыі ў Амэрыцы дакінуць яшчэ большы ў Англіі, апрача таго ўнутраны, які бу-

